**20 САКАВІКА ЗАКАНЧВАЕЦЦА ПАДПІСКА НА ДРУГІ КВАРТАЛ НА "ГАЗЕТУ СЛОНІМСКУЮ".**
**Кошт падпіскі на нашу газету самы танны ў рэгіёне: на месяц — 90 тыс.руб. на квартал — 270 тыс.руб.**
**На "Газету Слонімскую" могуць падпісацца жыхары Слонімскага, Зэльвенскага, Мастоўскага і Дзятлаўскага раёнаў.**



# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.*

№ 12 (93). 18 — 24 сакавіка 1999 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 20 тыс. руб.

НА КАНТРОЛІ ПРАКУРАТУРЫ

## СПРАВА ДЭЙКІ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**Як стала вядома "ГС", паўторнае расследаванне па факту смерці Алега Дэйкі ў Слонімскім медвыцвярэзніку ў ноч з 5 на 6 снежня 1997 года даручана весці следчаму Слонімскай міжрайпракуратуры Яўгену Рэвуцкаму.**

Нагадаем, што абласная пракуратура ўказала мясцовай пракуратуры дэталёва высветліць усе абставіны смерці маладога мужчыны. Прадстаўляць інтарэсы Марыі Дэйкі, маці загінуўшага, у органах пракуратуры будуць дэпутат гарсавета Міхась Варанец і мінскі юрыст Алег Волчак.

**Валодзя ЯНЧУК**

КРЫМІНАЛ

### "Волга" лепш, чым трактар

**Высвятляецца, што начальства калгаса імя К.Заслонава Дзятлаўскага раёна нічога лепшага не прыдумала, як абмяняць новы трактар МТЗ-82 на новую "Волгу".**

Дарэчы, трактар гаспадарка набыла за 25 тон насення харчовага рапсу. Акрамя таго за легкавушку калгас яшчэ вымушаны быў даплаціць 150 млн.руб.

Па меркаванню Камітэта дзяржаўнага кантролю Гродзенскай вобласці, гэты "абмен" з'яўляецца парушэннем дзеючага заканадаўства дзеля "сваіх вузкагаспадарчых і ведамасных інтарэсаў".

Да адміністратыўнай адказнасці прыцягнуты старшыня калгаса імя Заслонава В.Аблажэй. Больш таго, камітэт дзяржаўнага кантролю разлічвае, што дзейнасцю кіраўніцтва калгаса зацікавіцца і пракуратура.

**Наталля ФУРСАВА**

### У Мастах з'явіўся "мінёр"

**На мінулым тыдні ў Рагозніцкую сярэднюю школу Мастоўскага раёна патэлефанаваў невядомы і паведаміў, што ў будынку закладзена выбуховае прыстасаванне.**

Вучняў тэрмінова эвакуіравалі, а на месца здарэння прыбылі супрацоўнікі міліцыі і сапёры з Гродна. Міну не знайшлі, а тэрарыста міліцыя вылічыла. Ім аказаўся вучань 4 класа другой мастоўскай школы.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Крэдыты — справа сур'ёзная

**Аляксандр Лукашэнка загадаў спецыяльнай камісіі больш актыўна заняцца пытаннем па вяртанню крэдытаў, выдадзеных камерцыйнымі банкамі за перыяд з 1991 года.**

Высвятляецца, што на сённяшні дзень дзяржаве не аддадзена крэдытаў на агульную суму каля 250 млн. даляраў. Прэзідэнт запатрабаваў прыняць самыя жорсткія меры да таго чалавека, які лічыцца даўжніком.

— У камяру яго, сотавы тэлефон, і хай вызвоньвае, — менавіта так Аляксандр Рыгоравіч вызначыў метады барацьбы за нявернутыя крэдыты.

**Наталля ФУРСАВА**

### Пакалечыў вока

**Нядаўна ў выніку грубага парушэння правіл па ахове працы цяжкае калецтва атрымаў 52-гадовы рабочы Слонімскага лесазавода Павел Ш.**

Трактарыст, які ў той дзень рамантаваў прычэп, папрасіў яго дапамагчы выбіць утулку з рамы. У момант удару кувалды па металічнаму шворану, кавалак адляцеўшага металу трапіў у вока мужчыне.

### Абакралі генерала

**У вёсцы Шылавічы дачу былога камандзіра 11-й механізаванай брыгады Анатоля Нікіціна наведалі злодзеі.**

Яны ўкралі магнітафон замежнай вытворчасці.

### Патроны былі ў кішэнях

**На мінулым тыдні за адміністрацыйнае правапарушэнне міліцыя затрымала раней судзімага слонімца Г.**

У яго кішэнях было выяўлена 42 баявыя патроны да пісталета Макарава.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ТРЫБУНА

## НАДЫХОДЗІЦЬ ЧАС ВЫЗНАЧЫЦЦА

**Набліжаюцца выбары ў мясцовыя Саветы, якія адбудуцца 4 красавіка. Ці ведаюць людзі сваіх кандыдатаў у дэпутаты? Ці пойдуць яны галасаваць? Пра гэта карэспандэнты "ГС" на вуліцах горада спыталі ў слонімцаў. Вось, што яны пачулі.**

**Ніна Паўлаўна Свістунова,** ***жыхарка мікрараёна "Энка":***

— Галасаваць пайду, але прозвішча свайго кандыдата ў дэпутаты, на жаль, не ведаю. Упэўнена, што жыхары мікрараёна выберуць дэпутатам вартага чалавека, які здольны за нас пастаяць.

**Ала,** ***работніца бальніцы:***

— 4 красавіка на выбары пайду абавязкова. Шкада, не ведаю за каго прыйдзецца галасаваць, бо мне не ўсё роўна, хто будзе дэпутатам па нашай выбарчай акрузе. Лічу, што гэты чалавек павінен гарой стаяць за інтарэсы людзей.

**Міхаіл,** ***37 гадоў:***

— Галасаваць прынцыпова не пайду, бо дэпутат усё роўна нічога не вырашыць. Дык навошта ісці на выбары?

**Уладзімір,** ***рабочы маторарамонтнага завода:***

— Што выбары адбудуцца 4 красавіка, я ведаю, а вось пра кандыдата ў дэпутаты па нашай акрузе —паняцця не маю, хто такі? Магчыма, у дзень выбараў з бюлетэня даведаюся пра яго. Прагаласую за лепшага. Пасля выбараў адразу пайду да яго, каб дапамог вырашыць пытанне з жыллём. Мая сям'я трэці год блукае па прыватных кватэрах.

**Уладзімір,** ***рабочы завода сухога абястлушчанага малака:***

— Імя кандыдата ў дэпутаты не ведаю. Раней праводзіліся іх сустрэчы з выбаршчыкамі, а цяпер усё ціха. Тым не менш, галасаваць пайду. Калі будзе некалькі кандыдатаў, то прагаласую за таго, каго ведаю.

**Мікалай Мельнічэнка,** ***работнік фірмы "Антарэс":***

— Галасаваць не пайду, бо не бачу ў гэтым ніякага сэнсу. Каго не выбірай, усё роўна нічога не зменіцца ў лепшы бок. Усе дэпутаты шмат абяцаюць перад выбарамі, а пасля нічога не робяць.

**Марыя Раманенка,** ***бухгалтар:***

— На выбарах абавязкова буду. І гэта павінен зрабіць кожны свядомы чалавек. Але хто вылучаецца — не ведаю. Магчыма, да пачатку выбараў з гэтым чалавекам пазнаёмлюся.

**Аксана, 24 гады,** ***фармацэўт:***

— Галасаваць пайду і хачу даць наказ будучаму дэпутату, каб ён дапамог маёй сям'і атрымаць кватэру. Для мяне гэта самая складаная праблема.

**Аляксандр Воранаў,** ***жыхар вул. Чарняхоўскага:***

— Галасаваць пайду, бо хачу, каб дэпутатам стаў сапраўдны прафесіянал. Толькі тады можна разлічваць на паспяховае вырашэнне шматлікіх праблем, якія існуюць у нашым горадзе. На жаль, прозвішча кандыдата ў дэпутаты мне невядома.

**А.А.,** ***работнік міжрайгаза:***

— Дзе знаходзіцца мой выбарчы ўчастак, я не ведаю. Ды мяне гэта асабліва і не цікавіць, бо галасаваць я прынцыпова не буду. Чаму? Не бачу ў горадзе вартых кандыдатаў, якія змаглі б адстойваць інтарэсы простых людзей. Такая мая асабістая пазіцыя.

**Вольга Шаўчэнка,** ***трэнер дзіцячай спартыўнай школы:***

— Я з'яўляюся членам выбарчай камісіі. А вось імя кандыдата ў дэпутаты па сваёй акрузе не ведаю. Можа пазней пра яго скажуць.

**Канстанцін Філіпавіч Дабрыян,** ***пенсіянер:***

— Нават прозвішча свайго будучага дэпутата не ведаю. А так хацелася б сустрэцца з ім асабіста і яшчэ да выбараў пагаварыць.

**Матэрыял падрыхтавалі Валянцін ЧУРЫЛА і Мікалай СУПРУН (фота)**

### Таршэр спаліў кватэру

**Ноччу з 12 на 13 сакавіка ад замыкання электраправодкі ўзнік пажар у кватэры дома на Чырвонаармейскай вуліцы.**

Агнём знішчана ўся хатняя маёмасць. Гаспадыня, прачнуўшыся ад паху дыму, цудам выбралася з кватэры.

Нездарма ў народзе кажуць, што адна бяда ў хату не прыходзіць. Напярэдадні пажару жанчына пахавала свайго мужа і, баючыся спаць у поцемках, пакінула на ноч уключаным таршэр, які і стаў прычынай пажару. Акрамя гэтага пажарныя выявілі ў кватэрным электралічыльніку "жучкі".

### Бутэлькай па галаве

**На мінулым тыдні 30-гадовы жыхар вёскі Норцавічы Дзятлаўскага раёна абрабаваў магазін у суседняй вёсцы Погіры.**

Зайшоўшы ў краму, ён там пастаяў хвіліну, потым нечакана схапіў пустую бутэльку і стукнуў ёй па галаве прадаўшчыцу. Пасля гэтага ўзяў з прылаўка тры бутэлькі гарэлкі і кінуўся ўцякаць, аднак хутка быў затрыманы міліцыянерамі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**



КУРСЫ ВАЛЮТ

по состоянию на 16.03.99 г. (в тыс.руб.)

| Филиалы | USD Пок. | USD Прод. | DEM Пок. | DEM Прод. | RUR Пок. | RUR Прод. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| "Беларусбанк" | 280,0 | 285,0 | 156,0 | 159,0 | 11,8 | 12,3 |
| "Белагропромбанк" | 285,0 | - | 157,0 | - | 11,7 | 12,3 |
| "Приорбанк" | 310,0 | - | 170,0 | - | 12,5 | - |
| "Белпромстройбанк" | 280,0 | 285,0 | 158,0 | 159,0 | 11,9 | 12,0 |
| Курс "черн. рынка" | 315,0 | 340,0 | 170,0 | - | 12,5 | - |

ПРАБЛЕМА

*Летась ад укусаў сабак у Слоніме пацярпелі 196 чалавек, з іх — 79 дзяцей.*

# САБАКА БЫВАЕ КУСЛІВЫМ...

Сёлета пракуратура рэспублікі на разгляд ураду ўнесла прапанову аб увядзенні больш жорсткай адміністратыўнай адказнасці за парушэнне правіл утрымання сабак і драпежных жывёл, у выніку чаго пацярпелі грамадзяне. У сувязі з гэтым нават плануецца увесці крымінальную адказнасць да ўладальнікаў сабак.



Статыстыка сведчыць: штогод у Беларусі ад нападаў сабак пакутуе 20 тысяч чалавек. Іншы раз здараюцца сапраўдныя трагедыі... Па словах намесніка галоўнага ўрача цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Анатоля Цепіна, на шчасце, на Слонімшчыне не было зафіксавана падобных трагічных выпадкаў. Аднак людзей пацярпела шмат. У 1998 годзе па медыцынскую дапамогу звярнулася 196 чалавек, пакусаных сабакамі (у 1997 го- дзе такіх было 178 чалавек). Сярод іх — 79 дзяцей...

"У горадзе вельмі многа беспрытульных сабак і, вядома, з імі трэба весці барацьбу, — гаворыць А. Цепін. — Але я хацеў бы засяродзіць увагу на тым, што менавіта па віне чалавека жывёліна становіцца беспрытульнай. Больш таго, часта ўкусы бываюць справакаваны людзьмі (як правіла, у нецвярозым стане)".

**Праблемы ствараем самі...**

Часцей за ўсё людзі самі выганяюць сабак на вуліцу... "Армія" недагледжаных жывёл уяўляе сабой спрыяльнае асяроддзе для ўзнікнення хвароба "шалёнства", чумы і нават сібірскай язвы, не гаворачы пра скурныя грыбковыя захворванні. А каб вылечыцца ад шаленства, трэба вытрымаць шмат балючых уколаў сывараткі...

Спецыялісты раяць, калі чалавека ўкусіў сабака, асабліва бяздомны, тэрмінова звяртацца да ўрача. Нельга адцягваць гэта да таго моманту, калі наступіць пагаршэнне здароўя.

**... і змагаемся з імі старымі метадамі**

Старажылы ўспамінаюць, што нават у самыя цяжкія ваенныя гады быў наладжаны адлоў беспрытульных сабак. Звычайна па Слоніме на возе ездзіў чалавек (яго называлі "гіцэль"), які лавіў бадзячых сабак. Кажуць, што са сваімі абавязкамі ён спраўляўся добра. Сёння адловам беспрытульных жывёл займаецца камунгас, які мае для гэтай мэты адну штатную адзінку. Анатоль Цепін лічыць, што, хоць той работнік і ловіць шмат бяздомных сабак, але гэтага недастаткова.

Дык як вырашыць праблему? Павялічыць колькасць "сабакаловаў"? Мусіць, і гэта не вырашыць. Трэба карэнным чынам мяняць самі метады барацьбы з гэтай з'явай. У многіх краінах ужо створаны прытулкі, куды звозяцца бяздомныя сабакі, каты. Там іх правяраюць ветэрынары. Хворых жывёлін усыпляюць, а здаровых кормяць, лечаць, шукаюць ім новых гаспадароў, якія не выкінуць іх на вуліцу...

**Сяргей ЁРШ, Вячаслаў СЦЯПУРА**

НОВОСТИ

## А так хотелось заработать

**Недавно Слонимский суд оштрафовал Марию Б., Людмилу Ч., Ирину Ш. по 25 миллионов рублей каждую.**

Такое наказание женщины понесли за то, что пытались вывести на продажу в Россию продукты питания. В частности, одна Мария Б. планировала продать в Москве 144 килограмма белорусской говядины. Этот груз, как и у других женщин, обнаружили сотрудники слонимской финансовой милиции, которые проверили багаж пассажиров автобуса, следовавшего из Слонима в Москву.

Согласно президентскому указу №15 вывоз продуктов за пределы страны сверх нормы запрещен, определены и строгие меры наказания. Поэтому дела слонимчанок были переданы в суд, который не только оштрафовал женщин, но и конфисковал их товар.

**Константин ИВАНОВ**

## Часы от президента

**Экипажу вертолета МИ-172, на котором президент А.Лукашенко летал 4 марта в Слонимский район, вручены грамоты и именные часы**

15 марта начальник Главного штаба Вооруженных Сил Беларуси генерал-лейтенант Михаил Козлов посетил 248-ю отдельную авиационную эскадрилью особого назначения, базирующуюся на аэродроме Липки на окраине Минска.

Там по поручению президента республики он вручил грамоты и именные часы членам экипажа вертолета.

Этих наград командир экипажа подполковник Казимир Блин, штурман капитан Сергей Малиновский и борт-инженер капитан Александр Киселев удостоены за высокое профессиональное мастерство и безупречное выполнение воинского долга, проявленные во время полета, проходившего в сложных метеоусловиях.

## Чистка рядов

**Александр Лукашенко отстранил от занимаемой должности председателя Могилевского облисполкома Александра Куличкова.**

Глава государства также снял с работы первого заместителя главы облисполкома Владимира Адашкевича и председателя Мстиславского райисполкома Сергея Демиденко.

Основанием для отставок стали многочисленные факты нарушения закона местными властями, в том числе злоупотребления в сфере агропромышленного комплекса и строительстве жилья.

В итоге проверки, которую по названым фактам провели правоохранительные органы, задержаны председатель Мстиславского райисполкома и его сын, а также председатель колхоза «Советская Белоруссия», бывший глава райисполкома и бывший начальник милиции.

**БелаПАН**

## Обязательное страхование владельцев автомобилей

**С 1 июля 1999 года в Беларуси вводится обязательное страхование гражданской ответственности владельцев транспортных средств за вред, причиненный в результате дорожно-транспортных происшествий жизни или здоровью физических лиц, их имуществу либо имуществу юридических лиц.**

Владельцы транспортных средств, как отмечается в документе, обязаны заключить со страховой организацией договор обязательного страхования. Использование транспортного средства без договора обязательного страхования влечет наложение штрафа на юридическое лицо и предпринимателя, осуществляющего свою деятельность без образования юридического лица, в размере 15 минимальных зарплат; на физическое лицо — 5 минимальных зарплат. В случае совершения на транспортном средстве без страховки дорожно-транспортного происшествия (ДТП), штраф для юридических лиц и предпринимателей установлен в размере 25 минимальных зарплат; для физических лиц — 10 минимальных зарплат. Эксплуатация транспортного средства без договора об обязательном страховании, зарегистрированного за границей, влечет наложение штрафа в размере, эквивалентном 200 долларам США.

Для владельцев легковых автомобилей размеры ежегодных взносов за страхование гражданской ответственности будут определяться в зависимости от объема двигателя. При объеме двигателя автомобиля до 1200 куб/см размер годового страхового взноса составит 9,4 евро; от 1200 до 1800 куб/см — 11,8 евро; от 1800 до 2500 — 14,7 евро; верхний предел — свыше 3500 куб/см — 21,2 евро.

**БелаПАН**

СЛОНІМ

## Ідзе вясна





Сакавік пачынае вясну. Ярчэй прыграе сонейка, па вуліцах імкліва бягуць ручайкі. Жыць хочацца, калі бачыш, як ажывае прырода, як маладзеюць і харашэюць людзі, скінуўшы зімовыя ватоўкі і шапкі.

А дзяўчаты?! Якія прыгожыя і шчаслівыя ў сакавіку дзяўчаты! Адразу адчуваеш, што гэта іх месяц. Адпачывай колькі табе захочацца і кахай, як умееш!

Вясна і жанчына – нешта агульнае, бо аб'ядноўвае іх прыгажосць, надзеі і мары на лепшае.

Вясною прыходзіць каханне, каб зрабіць жанчыну шчаслівай. Адным пашанцуе на ўсё жыццё, а ў другіх вясна застанецца, як успамін аб светлым і пяшчотным. Вясна на дварэ і вясна ў сэрцы. Галоўнае, каб яна заўсёды была!

**Сяргей ЧЫГРЫН, Мікалай СУПРУН (фота)**

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# ДАЖДЖЛІВАЯ НОЧ

Міхась Журынчык зноў пасварыўся з жонкай. Счапіліся з-за сына. Яна дазваляе трохгадоваму дзіцяці ўсё, што той пажадае. Міхась не без падстаў баяўся, што з малога вырасце вялікі эгаіст.

Жонка зачынілася з малым у спальні, і Журынчык па вопыту ведаў, што маўчанка зацягнецца на некалькі дзён. На душы было прыкра і пуста, як і заўсёды пасля сямейных сварак.

— Шкада, што лье дождж, а так схадзіў бы ў бальніцу паглядзець, як там маецца дзед, якога днямі прааперыраваў.

Ён уключыў тэлевізар і, сеўшы на канапу, без усялякай цікавасці пачаў глядзець стары фільм, які бачыў ужо некалькі разоў.

Зазваніў тэлефон. Міхась узяў трубку і пачуў заклапочаны голас свайго калегі-хірурга Андрэя Міронычка.

— Збірайся. Машыну высылаю.

— А што здарылася?

— Васьмігадовы хлопчык трапіў пад трактар. Чэрапна-мазгавая траўма, пераломам бядра. Убачыш сам.

За шмат гадоў працы хірургам у бальніцы невялікага раённага гарадка ён бачыў усякае, але ніяк не мог прывыкнуць да дзіцячых пакут. У такіх выпадках адчуваў нейкую няёмкасць, што ён, дарослы мужчына – дужы і здаровы, а маленькая істота так пакутуе. З маленькімі пацыентамі быў надзвычай ласкавы, прыносіў ім з дому ласункі, калі бачыў, што бацькі не могуць купіць свайму хвораму дзіцяці таго, чаго ў яго сына заўсёды было даволі.

Пакуль прыехаў, хлопчыка падрыхтавалі да аперацыі. Міхась з радасцю ўбачыў сярод калег дзіцячага нейрахірурга прафесара Васіля Мікалаенку, які быў родам з іхняга гарадка і цяпер адпачываў у маці. Мікалаенка быў славутым нейрахірургам. Яго ведалі не толькі ў Мінску, дзе той працаваў, але і ў многіх абласных і нават раённых цэнтрах рэспублікі.

Хлопчык быў беспрытомны. Невялічкі, худзенькі, з нагола падстрыжанай перад аперацыяй чарнявай галоўкай, ён выклікаў у Міхася шчымлівы жаль.

— Які малайчына Андрэй, што запрасіў Васіля Пятровіча. Мы самі, можа, і не справіліся б, — падумаў доктар.

Чэрапна-мазгавая траўма была адкрытай, і ён усур'ёз баяўся за вынік аперацыі. Мікалаенка, вядома, таксама не Бог, але ж у яго залатыя рукі і веды — не параўнаць з правінцыйнымі хірургамі.

Аперацыя прайшла паспяхова. Цяпер хірургі і рэаніматолагі маліліся, каб не было ўскладненняў. Некалькі дзён хлопчык будзе знаходзіцца ў медыкаментозным сне, і медыцынскі персанал рэанімацыі не спусціць з яго вачэй.

Прафесар заўтра ранішнім цягніком павінен ехаць у Мінск. Калі Міхась зайшоў у ардынатарскую, там ужо сядзеў Андрэй Міронычк і нешта пісаў у гісторыю хваробы.

— А чый гэта хлопчык? Дзе яго бацькі? — прыкурваючы цыгарэту, спытаў Міхась.

— Мала што ведаю, — адарваўшыся ад справы, сказаў Андрэй. Не было калі асабліва разбірацца. Разам з ім на "хуткай дапамозе" прыехала маці. Яна такая напалоханая, заплаканая, што ледзь толку дабіліся. Казала, што прыехала разам з малым у госці да сяброўкі ў вёску Манькаўшчына. Сёння раніцай прыехалі, а паслязаўтра меліся ехаць назад. Жывуць на Віцебшчыне.

(Працяг на стр.3)

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............2-14-39
............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 17 сакавіка 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7.200 экз.
Заказ № 781

Газета Слонімская
18 — 24 сакавіка 1999г., № 12 (93)

## *Мараль гісторыі такая:*
# НЕ РАБІ ДАБРА, НЕ АТРЫМАЕШ ЗЛА

Гэтая канфліктная гісторыя адбылася ў мястэчку Наваельня Дзятлаўскага раёна. А прычынай таму стала карова, якая нечакана пачала канаць проста на пашы. Ды так імкліва, што пастух не на жарты занепакоіўся. Ён меў ветэрынарную адукацыю і, паназіраўшы, як пакутуе бедная жывёліна, вырашыў, што ў палявых умовах паратунку ніякага не знойдзе. Адзінае выйсце: трэба карову прырэзаць. Тады можна будзе здаць мяса, і гаспадар атрымае хоць нейкую капейку. А як здохне, то прыйдзецца жывёлу закапаць.

Пасля таго, як бедная карова была прырэзана, пастух наказаў гаспадару, каб той прыйшоў на пашу, маўляў, з яго рагуляй здарылася бяда. Яны разам асвежавалі тушу, і гаспадар дазволіў пастуху здаць мяса і скуру, а грошы, вядома ж, аддаць яму. Каб пастух ведаў, што потым адбудзецца, то можа і не браў бы ў рукі нож. Але ж чалавек хацеў як лепш. І зрабіў як лепш. Не дзеля падзякі ці якой-небудзь карысці. Проста па дабрацe душэўнай не мог глядзець, як мучыцца бедная скаціна, не хацеў, каб гаспадар панёс страты.

Трэба адзначыць, што на пашу адразу ж паклікалі ветэрынарнага ўрача. Ён агледзеў карову і акрамя ўздуцця ніякай хваробы ў яе не знайшоў. Выдаў адпаведную даведку аб прырэзцы і канстатаваў, што выратаваць карову на пашы не было ніякай магчымасці.

Яна ўсё роўна прапала б. І пастух зрабіў правільна, прырэзаўшы жывёліну.

Ветэрынарны ўрач таксама адзначыў , што ўздуцце магло адбыцца па розных прычынах, у тым ліку і ад хваробы печані. І санраўды, санітарны эксперт ветэрынарнай станцыі прыйшоў да высновы, што пашкоджана толькі печань, а мяса выдатнай якасці. Спецыяліст таксама падкрэсліў, што выратаваць жывёлу ў палявых умовах не было магчымасці.

Гаспадару, канешне, трэба паспачуваць, бо ў наш час страціць карову — гэта не жарты, яна каштуе вялікія грошы. Але ж пастух зрабіў сумленна. Ён здаў скуру, мяса і грошы вярнуў гаспадару: атрымалася 12645000 рублёў. Гаспадар грошы ўзяў, на тым і разышліся.

Праз некаторы час гаспадар вырашыў купіць другую карову. Апытаў людзей і старгаваў някепскую рагулю ў адной з вёсак Дзятлаўшчыны. Заплаціў за яе 19800000 рублёў. Вось тады ў яго галаву закралася думка: аддаў я за новую карову больш, чым атрымаў ад пастуха за прырэзаную. Розніца складае 7155000 рублёў. Таму ён і звярнуўся да пастуха, каб той вярнуў яму грошы.

Пастух адмовіўся.

— Я грошай не аддам, — сказаў гаспадару.

— Тады будзем судзіцца, — суровым тонам прамовіў той. — Навошта ты яе чапаў наогул?

— Дык здохла б жа.

— Няхай бы здыхала. Тады я страхоўку атрымаў бы. Яна была застрахавана на 10500000 рублёў.

— То я ж табе на два мільёны больш аддаў за прададзенае мяса.

— Нічога не ведаю. Пойдзем у суд, і няхай ён з цябе спагоніць розніцу. Новая ж карова дарага каштуе.

— То ты мог купіць яшчэ даражэйшую. І я павінен плаціць?

— А як ты думаў? Ну, нічога, суд разбярэцца.

Суд і сапраўды разабраўся.

Ён скрупулёзна вывучыў справу. Акрамя ўсяго іншага суд улічыў і тое, што ў статку было 38 кароў і ніводная з іх не захварэла.

І яшчэ. Каб пастух своечасова не прырэзаў карову, то гаспадар мяса выкінуў бы, і невядома яшчэ і тое, ці атрымаў бы ён страхоўку. Магло стацца так, што не атрымаў бы нічога.

Суд адмовіў гаспадару ў выплаце страты.

Мусіць, чалавеку ў любых абставінах трэба заставацца чалавекам, бо пастух замест падзякі за дапамогу атрымаў толькі шмат непрыемнасцей, стаў нават удзельнікам судовых разборак.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

**ДЗЯТЛАВА** *проза нашага жыцця*




*Фота Мікалая СУПРУНА*

**НАВІНЫ**

## Дапамаглі суседзі

**Сярод белага дня загарэўся хлеў на сядзібе жыхаркі Дзятлава М.**

Дзякуючы суседзям, якія адразу пачалі заліваць агонь пры дапамозе палівальнага шланга, а таксама своечасова падаспеўшым пажарным, агонь не перакінуўся на хату і суседнія будынкі.

## Не сядзіцца...

**У калонію вольнага пасялення, што знаходзіцца паблізу пасёлка Гезгалы Дзятлаўскага раёна, перыядычна перавозяць асуджаных з Ваўкавыскай калоніі.**

Такія льготы асуджаным даюцца за прыкладныя паводзіны. Аднак ім там не сядзіцца. Карыстаючыся тым, што пасяленцы знаходзяцца без пільнага кантролю, некаторыя з іх учыняюць рэйды па падвалах, магазінах, адкуль крадуць усё, што трапляе пад рукі.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## За рулём — п'яныя трактарысты

**За кіраванне транспартам у нецвярозым стане ў лютым на Зэльвеншчыне было затрымана 10 чалавек.**

Часцей за ўсіх п'янымі за рулём ездзяць трактарысты калгасаў. З дзесяці затрыманых — шэсць п'яных механізатараў.

**Міхась АКУЛКА**

## Права на жыллё — за кратамі

**Грамадзянін Літвы Эдмундас Карапінскас жыў на Зэльвеншчыне без права на жыхарства.**

За што ён неаднаразова атрымліваў папярэджанні ад праваахоўных органаў і некалькі разоў быў асуджаны.

Нядаўна інспектар паспартна-візавай службы Уладзімір Клімук зноў перадаў справу Э.Карапінскаса ў Зэльвенскі народны суд, які прыгаварыў грамадзяніна суседняй дзяржавы да аднаго года пазбаўлення волі.

## Пачалі абжывацца

**На Зэльвенскім вадасховішчы за сезон гняздзіцца да 10 сем'яў белых лебедзяў.**

Хаця вясна сёлета і запазнілася, але з выраю ужо вярнуліся некалькі пар гэтых прыгожых птушак.

## Помнік прыроды

**Калі едзеш з Ваўкавыска на Слонім, каля вёскі Мадзейкі ляжыць сівы валун, дыяметрам звыш трох метраў.**

Гэты камень з'яўляецца помнікам прыроды. На сённяшні дзень на Зэльвеншчыне камянёў такіх памераў — толькі адзін. Ахоўваецца ён, як помнік, мясцовым лясніцтвам.

**Антон РАЧОК**

## Поспех юнай піяністкі

**Нядаўна ў Гродне адбыўся абласны музычны конкурс "Новыя імёны", у якім прыняла ўдзел вучаніца Слонімскай дзіцячай музычнай школы Яна Кукліцкая.**

За майстэрскае выкананне твораў Бетховена, Баха, Ліста ёй прысуджана другое месца і ўручаны дыплом.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ**

# ДАЖДЖЛІВАЯ НОЧ

— Я больш ведаю, — паведаміла аперацыйная сястра Наташа, якая ўключыла кіпяцільнік і хацела заварыць гарбату. — Мама яго — аматарка "бахуса". Гэта відаць няўзброеным вокам: неахайна апранута, колер твару выдае тайныя захапленні. Ды і сяброўка, да якой прыехала, таго ж поля ягада. Яны выпадкова пазнаёміліся ў Мінску на вакзале. Прыцягнулася ў нашы мясціны невядома чаго, малы заняткі ў школе без прычыны прапускае. Словам, матулька яшчэ тая.

— А бацька дзе? — пацікавіўся Міхась.

— Сабакам сена косіць. Цяпер гэта модна, для сабак сенаваць, — са злосцю сказала Наташа. Яна была старой дзеўкай і да мужчын адносілася з пагардай і недаверам.

— Табе б, Наташа, у вышуку працаваць, але шкада адпускаць, бо і медсястра ты выдатная, — пажартаваў Андрэй.

Дзяўчына на гэтыя словы ніяк не адрэагавала. Сказала, звяртаючыся да Міхася:

— Калі хочаце ўбачыць матулю хлопчыка, зайдзіце ў фае. Яна там сядзела, можа яшчэ не пайшла.

Ён дакурыў цыгарэту і накіраваўся ў фае. Каб хто спытаўся, навошта яму тая невядомая жанчына, наўрад ці адказаў бы. Хацелася проста паглядзець на яе, выказаць спачуванне, неяк падтрымаць у бядзе.

У фае было пуста, і ён адразу ўбачыў яе худзенькую постаць, сціснутую ў камячок ад гора, нібы верабейка на марозе. Апранута яна была, сапраўды, бедна і неахайна. Караткаватае асенняе паліто, старыя гумовыя боты, якія носяць на працу вясковыя жанчыны. І раптам доктара Журынчыка нібы токам працякло: ён убачыў над верхняй губой жанчыны маленькую радзімку, а напоўненыя тугой і жалем вялікія шэрыя вочы рэзанулі па сэрцы.

— Соня!

Міхась яе ледзь пазнаў. Ён маўчаў, бо перахапіла дыханне, задрыжалі ногі. Да яго свядомасці ўжо канчаткова дайшло і засела іржавым цвіком: гэта Соня, яго першая жонка. Яны пазнаёміліся і пажаніліся яшчэ тады, калі яна была студэнткай педінстытута, а ён працаваў токарам на адным з мінскіх заводаў. Ён прыраўнаваў Соню да суседа па інтэрнаце. Моцна пасварыліся. Сам падаў на развод. Звольніўся з працы і паехаў да бацькоў у вёску пад Маладзечна.

Было гэта вясной. А летам Міхась са стрыечным братам, які толькі што закончыў школу, паехалі паступаць у медыцынскі інстытут. Брат падгаварыў. Потым жартаваў, што звязаўся з Міхасём на сваю галаву, бо той паступіў, а брат не прайшоў па конкурсе. Яму шчасце ўсміхнулася ажно праз два гады.

Цяпер, калі ў яго новая, не зусім удалая сям'я, Міхась часта ўспамінаў Соню. Яе мілую, нейкую сарамлівую ўсмешку, слёзы ў вялікіх шэрых вачах, калі ён, нібы каменні, кідаў у яе незаслужаныя кпіны. А што незаслужаныя, яму "папулярна" растлумачыў той самы сусед. Аднойчы, калі Міхась ужо звольніўся і збіраўся ехаць дадому, сусед прыйшоў у пакой і ўляпіў раўніваму мужу моцную аплявуху.

— Ты яшчэ не раз пашкадуеш аб тым, што натварыў. Не шукай яе, не знойдзеш, яна прозвішча памяняе.

Міхась і праўда шкадаваў. А цяпер нібы хто вуглёў яму ў грудзі насыпаў.

— Ты замужам?

— Не.

— Была замужам?

— За табой толькі.

— А хлопчык чый?

— Твой. Ты ж прагнаў мяне цяжарную. Я тады яшчэ і сама не ведала, што цяжарная. Ты толькі што апераваў свайго сына...

Міхась успомніў худзенькі бяскроўны тварык, стрыжаную галоўку і застагнаў ад невыноснага болю.

— Ён паправіцца? — спытала Соня.

— Будзем спадзявацца на лепшае. І табе трэба лячыцца, разумееш? Я дапамагу. Ты не спрабавала лячыцца ад алкагалізму?

— Гэта я так апусцілася за апошні год, калі са школы звольнілі, дзе хімію выкладала.

— Нічога, усё будзе добра, Соня, усё будзе добра. І сынок наш паправіцца. Усё будзе добра...

Пякучая віна перад гэтай няшчаснай жанчынай, з якой ён па маладой дурасці абышоўся так жорстка, перад маленькім бездапаможным сынам, які ляжаў цяпер маўклівы і нерухомы ў страшнай белі палаты, прыскам смаліла душу, не давала дыхаць.

— Пакажы мне яго. Я хачу зірнуць, — папрасіла Соня.

— Ён узяў яе пад руку і моўчкі павёў па калідоры. З дзвярэй ардынатарскай выглянула Наташа і здзіўлена пазірала ім услед.

А за вокнамі ліла слёзы адзіноты халодная восеньская ноч...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

Газета Слонімская
18 — 24 сакавіка 1999г., № 12 (93)

## УВАГА! КОНКУРС „ШТО Б ГЭТА ЗНАЧЫЛА?" ад "Kodak-Люкс"

**Паважаныя чытачы!**



Падыходзіць да фінішу наш конкурс. Засталося яшчэ некалькі тураў. Але мы па-ранейшаму чакаем ад вас подпісаў да здымкаў. А сёння публікуем лепшыя подпісы да здымка, які быў апублікаваны ў дзесятым нумары "ГС".

***
Посуду мыть я не умею
И пусть меня не просят.
Лучше пусть ее помоет
Моя баба Фрося.

***
А я лягу-прылягу
На хвілінку-другую.
А як толькі прачнуся,
Увесь посуд памыю.

*Ганна Глечыкава*

***
Хозяин мой, Иван Иваныч,
Подумайте! Каков нахал!
Представил он,
что я мочалка,
И мной посуду оттирал.

***
О, Боже,
что ж за горюшко такое!
Еще немного...
и подали б на "второе"!

***
Праздник женский
отмечали,
Ваську "в стельку" накачали.
Протрезвел наш бедный кот —
Где он? Кто он? Не поймет.

***
Ну и хозяюшка! Ну и нахалка!
Такого кота
превратила в мочалку!

***
Для просветления ума,
Для твердости
моей походочки,
Прошу, подайте мне вина,
А впрочем, —
хорошо бы водочки.

*Светлана Болтик*

***
Наелся, напился, умылся,
забылся.

*Евгений Скробутан*

***
Опять лежит "под мухой" кот,
Он валерьянку пьет и пьет.
Ему усы отгрызла мышь,
А он поет
"Шумел камыш...."

*Леонид Герасимчик*

***
Автоматика. Притом,
Мир такой не знает:
Моет, чистит языком,
Хвостом вытирает.

*Леонид Грушко*

***
Сельдь съели, а шубу оставили.

*Никита Барановский*

***
Как упоительны такие вечера!

***
Напилася я пьяна,
Не дошла до дивана.

*Лилия Прудникова*

***
Цяжкі лёс спаткаў мяне:
З'еў я курыцу ў віне.
А затым папіў вады —
І ні туды, і ні сюды.

*Сяргей Якімчык*

***
Не хачу я на Таіці,
Мне і тут нядрэнна жыці!

*Наталля Эгерд*

***
Есть в Лукоморье
кот ученый,
Устал он сказки говорить.
Решил на кухне у хозяйки
"По совместительству"
служить.

***
Своей хозяйке я
День выходной устрою.
Посплю чуток, затем
Посуду перемою.

*Виктор Новоселов*

***
Полежу я здесь немножко —
Позову на помощь кошку.

***
После вкусного обеда,
По закону Архимеда
Полагается поспать.
Только где моя кровать?

*Юрий Яговдик*

***
Простую истину я не забуду:
Покушал — убери посуду.

***
Я кран тихонечко прикрою,
Тарелки языком помою.

*Татьяна Белько*

***
Посуду я помыть решил,
Вот только "Досю" взять забыл.
Открыл я кран —
воды там нет.
Да, прав вчера был
наш сосед:
Нет воды у нас в обед!

*Мария Демяник*

***
Мне хозяйка приказала,
Чтоб посуда вся блестела!
А я лучше полежу
И на мышку погляжу!

*Надежда Добриян*

***
Помочь хозяйке собирался,
В итоге— крепко нализался

*Дмитрий Миронов*

***
Веселитесь, мышки! —
Кот на передышке.

*Татьяна Лысуха*

***
Я бы сауну посетил,
Только нету больше сил.
Да и здесь приятно очень
Коротать и дни, и ночи.

*Татьяна Тарасик*

***
Грязную посуду
Сегодня мыть не буду:
Полным-полно
других забот —
Март на дворе, а я же кот!

*Светлана Козлова*

***
Всю посуду перемыл,
Как вернуться вниз — забыл.

*Лариса Козлова*





Фота Мікалая СУПРУНА

*Што б гэта значыла? (№12)*

# ГОРОСКОП
## С 18 ПО 24 МАРТА



**ОВЕН**

С 22-го марта - ваше время. И начнется оно с приятных неожиданностей. Возможно, вы получите давно ожидаемое любовное признание или даже предложение. Овны-мужчины также будут необычайно популярны, но не стоит увлекаться случайными связями.



**ТЕЛЕЦ**

Ваше сердце уязвимо, в этот период вы способны создать множество проблем своим возлюбленным и довести отношения до разрыва. Лучше занимайтесь деньгами - они буквально плывут к вам в руки.



**БЛИЗНЕЦЫ**

Весь период пройдет под знаком гостей. Будут посещать вас, будут приглашать к себе: трудно не запутаться и не опоздать. Наиболее удачные и веселые дни - 23-24 марта. На работе возможны хорошие новости или предложения.



**РАК**

Это покажется вам удивительным, но вы сейчас похожи на кораблик, заглянувший в порт. Отдыхайте. Занимайтесь детьми и любимыми. Благоприятное время для ремонта и обустройства дома. На работе - временное затишье.



**ЛЕВ**

Вы сами себя не узнаете - проявите слабохарактерность в то время, как надо было бы настоять на своем. Отсюда и неприятности на работе. Близкий человек будет вызывать недовольство, а от вашего брюзжания может и вовсе сбежать.



**ДЕВА**

Период будет не столько трудным, сколько неприятным. Много мелкой лжи и интриг, не заслуживающих внимания... Все это будет раздражать и мешать работать. В остальном - без особых перемен.



**ВЕСЫ**

Перемены буквально во всем, что касается личной жизни. Некоторые вступят в брак, некоторые разведутся, а некоторые успеют сделать и одно и другое. Вы также потратите немало денег на глупые удовольствия. Стоит ли?



**СКОРПИОН**

Сбудется ваша давнишняя мечта. Да и в профессиональной сфере все сложится как нельзя лучше. Не проявляйте излишнюю настойчивость 25-го - ваше упрямство может испортить все то хорошее, что принесет предстоящая неделя.



**СТРЕЛЕЦ**

Легкое недомогание, если не обратить на него внимания, может развиться в болезнь. Будьте осторожны на дорогах и в людных местах. На работе предстоят небольшие перемещения, которые могут коснуться и вас. Небольшие сердечные проблемы.



**КОЗЕРОГ**

Не следует принимать близко к сердцу ошибки деловых партнеров, с вами они тоже случаются. Но исправлять положение придется все-таки вам. Зато в семейной жизни вас ждет подлинное счастье.



**ВОДОЛЕЙ**

В жизни женщин-Водолеев может появиться тайный покровитель, и как бы вы ни старались узнать, откуда же на вас сыплются приятные сюрпризы - пока это не удастся. Мужчины-Водолеи, почуяв весну, отправятся в путешествие.



**РЫБЫ**

Каждый из дней будет особенным - будто вновь переживаете год. 19-20-го вы будете способны воздействовать на окружающих и преодолевать препятствия, 21-24-го лучше вообще не думать о себе - несчастном, а 25-го будете очень популярны у противоположного пола.

**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Кулак Ілья
Скорб Кацярына
Дабрыян Арына
Васільеў Яўген
Адаменка Алена
Маркач Вікторыя



## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

✝

| | |
|---|---|
| **Свірэпік** Надзея Мікалаеўна | 1957 г.н. |
| **Леганькова** Фаіна Іванаўна | 1926 г.н. |
| **Капялюш** Веніамін Ісакавіч | 1931 г.н. |
| **Руды** Леанард Іосіфавіч | 1949 г.н. |
| **Жукоўскі** Павел Юльянавіч | 1930 г.н. |
| **Шурко** Дзмітрый Марцінавіч | 1927 г.н. |
| **Саванец** Паўліна Фёдараўна | 1911 г.н. |
| **Кашынская** Караліна Іосіфаўна | 1927 г.н. |
| **Зуй** Ганна Адрэеўна | 1910 г.н. |

✝

Паважаны Уладзіслаў Леанардавіч **Руды**!

Глыбока смуткуем разам з табою, раздзяляем горыч страты і выказваем самыя шчырыя спачуванні табе і тваёй сям'і з выпадку напаткаўшага вас вялікага гора — смерці бацькі.

***Твае сябры***



## АНЕКДОТЫ

☺— Совершенно не могу спать в поезде. У меня зубы всегда стучат.
— Как?
— В стакане...

☺ Пассажир поезда:
— Проводник, у вас можно курить?
— Нет!
— Тогда откуда взялись эти окурки?
— От тех, кто не задает вопросов.

☺— Официант, кофе был совершенно холодный!
— Хорошо, что вы мне об этом сказали. Охлажденный кофе на две тысячи дороже.

☺— Официант! Почему бифштекс пахнет пивом? Официант отодвигает тарелку как можно дальше на вытянутых руках.
— А так?

☺ — Моя жена все время твердит: «Давай деньги, давай деньги!»
— А зачем ей столько денег?
— Не знаю, я ни разу не давал.

☺ — Ты почему не ешь? - спрашивает мать маленького сына. Только что сказал, что голодный как волк.
— А ты когда-нибудь видела волка, который ест морковку?

☺ Собрались два мужика, один у другого и спрашивает:
— Слушай Коля, как это твоей жене удалось так быстро похудеть?
— А у нее сейчас усиленная диета, все калории просчитаны: 4 таблетки «Тик-Так» на завтрак, 7 таблеток на обед и 5 на ужин. Очень помогает, вес нормальный, дыхание свежее, правда, очень слабое!

## КРОССВОРД

*от Владимира Вашуты*

**1**. Плотная глянцевидная хлопчатобумажная ткань. **2**. Популярный французский киноактер, исполнитель главной роли в фильме "Великая иллюзия". **3**. Двойной удар в шахматах. **4**. Шерстяной безворсовый двухсторонний ковер ручной работы. **5**. Место в пустыне с растительностью и водой. **6**. Порода собак. **7**. Жилое помещение. **8**. Город-порт в Польше. **9**. Опера С.Прокофьева. **10**. Город на западе США. **11**. Автор сказки "Конек-горбунок". **12**. Световая кайма. **13**. Болотная птица с длинным клювом. **14**. Русский живописец, автор картины "Охотники на привале". **15**. Русский советский писатель, автор книги "Малахитовая шкатулка". **16**. Киргизский национальный эпос. **17**. Великий древнегреческий поэт. **18**. Время уборки сена. **19**. Птица семейства ястребиных. **20**. Ансамбль из восьми музыкантов. **21**. Мужской голос. **22**. Ластоногое млекопитающее. **23**. Город-курорт в Швейцарии. **24**. Широкое женское пальто (устар). **25**. Известный советский поэт. **26**. Обход для осмотра чего-либо. **27**. Зимняя спортивная площадка. **28**. Город в Польше. **29**. Роман Ю.Бондарева. **30**. Способ теоритического исследования или практического осуществления чего-либо. **31**. Старинная немецкая монета. **32**. Станок артиллерийского орудия. **33**. Вечнозеленое хвойное дерево. **34**. Старинный военный головной убор. **35**. Единица силы электрического тока. **36**. Разговоры, ссоры, беспорядок. **37**. Потомок от брака между белыми и индейцами. **38**. Река в Беларуси. **39**. Старинная крестьянская одежда. **40**. Старая русская мера длины. **41**. В греческой мифологии: божество в виде женщины, олицетворяющее различные силы природы. **42**. Белорусский фехтовальщик-саблист, чемпион XXI Олимпийских игр. **43**. Род револьвера. **44**. Женское имя. **45**. Вьющаяся или завитая прядь волос. **46**. Народный поэт Беларуси. **47**. Известный французский живописец и рисовальщик конца XVII начала XVIII века. **48**. Болгарский писатель-реалист, автор романа "Под игом". **49**. Муж свояченицы или брат жены. **50**. Лица, сопровождающие какую-нибудь важную особу. **51**. Сорт кирпича, изготавляемого из глины с примесью соломы или волокнистых веществ. **52**. Революционный крейсер. **53**. Клеймо, выжигаемое на коже животных. **54**. То же, что и радиолокатор. **55**. Столица государства в Европ **56**еТемное рискованное дело. **57**. Морской разбойник. **58**. Река в Грузии. **59**. Ученическая сумка. **60**. Одеяние для покойников. **61**. Католическая обедня. **62**. Ореол. **63**. Птица отряда воробьиных. **64**. Спортивный бег. **65**. Скорбь по умершему. **66**. Пьеса А.Н.Островского. **67**. Точка на местности, по которой ведется пристрелка орудия. **68**. Узконосая обезьяна рода макак. **69**. Драгоценный камень. **70**. Азербайджанский актер театра, народный артист СССР. **71**. Сигнал бедствия. **72**. Югославский международный гроссмейстер.

### ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№11)

**1**. Апельсин. **2**. Ипподром. **3**. Спаниель. **4**. Вертолет. **5**. Цитадель. **6**. Парадокс. **7**. Левиафан. **8**. Гербарий. **9**. Анатомия. **10**. Панорама. **11**. Осязание. **12**. Дифирамб. **13**. Геология. **14**. Балясина. **15**. Заказник. **16**. Геодезия. **17**. Динамика. **18**. Цикламен. **19**. Казначей. **20**. Нотариус. **21**. Наборщик. **22**. Кузнечик. **23**. Кассация. **24**. Реквизит. **25**. Букинист. **26**. Вереница. **27**. Пирамида. **28**. Сурдинка. **29**. Хлебосол. **30**. Панихида. **31**. Макинтош. **32**. Санскрит.

